# Тыднёвік Магілёўскі




№ 3 (44) 21 студзеня 1999 г. Кошт свабодны


ВЫБАРЧАЯ ЎВЭРЦЮРА

## Падрыхтоўка да дэмакратычнага шоў разгортваецца



Перадвыбарчае шоў, як вядома, ужо пачалося. У Магілёве адбылося чарговае мерапрыемства: прайшоў сэмінар старшыняў выбаркамаў. Намесьнік старшыні аблвыканкаму Яўген Касьцюковіч інструктаваў прызначаных адказнымі за выбары ў мясцовыя саветы, як трэба правесьці гэтыя самыя выбары. Яны, паводле ўказаньняў, павінны засьведчыць усяму сьвету, што «ў Беларусі з дэмакратыяй ня горш чым у Нарвэгіі».

Маркуючы па словах чыноўніка, улады прыкладуць усе сілы, каб выбары прайшлі па іх сцэнары. Прынамсі, гэта ня цяжка будзе ажыцьцявіць. Незаконны «закон», па якім будзе працаваць выбаркамаўская вэртыкаль, прадугледжвае ўсе магчымасьці і па кантролю за выбарамі, і па вызначэньні іх вынікаў. Клопат пра выбаршчыка ўлада праяўляе загадзя. У хуткім часе спэцыяльныя інфармацыйныя групы пачнуць амаль павальны абыход кватэраў. Маўляў, трэба, каб кожны грамадзянін усьвядоміў, у які гістарычны час ён жыве і якую місію будзе выконваць, наведваючы выбарчыя ўчасткі.

Чыноўнікі прадугледзелі, што ў сёньняшні эканамічны крызіс людзі могуць быць незадаволеныя ўладамі, і нават, страшна вымавіць, самім прэзыдэнтам. Таму «абходчыкам-агітатарам» параілі ўсё тлумачыць часовымі цяжкасьцямі і больш напіраць на тое, што прэзыдэнт і ягоная вэртыкаль няспынна клапоцяцца пра сваіх грамадзян. Ну, а каб сябры выбаркамаў ня грэбавалі гэтым даручэньнем, ім будуць выплочвацца даволі ладныя заробкі. Вызваленыя супрацоўнікі атрымаюць па 15 мільёнаў, астатнія менш, але таксама няблага. Так што ім будзе за што несьці ў народ «праўду».

**_Сымон ГЛАЗШТЭЙН_**

***На першым здымку*** *да матэрыялу адлюстраваны эпізод знаёмства сябраў выбарчага ўчастка з волевыяўленьнем народа. Своеасаблівае, на нашу думку, знаёмства.* ***На другім*** *– выбарчы ўчастак гатовы «да працы й подзьвігу». Пры гэтым выбаршчыкі тут зусім не абавязковыя. Абодва здымкі з архіву ТМ.*



## «Белая Кніга» з Магілёва

У Магілёве адбылася прэзэнтацыя «Белай Кнігі» парушэньняў правоў чалавека. Яе падрыхтавала мясцовае прадстаўніцтва Беларускага Хельсінскага камітэту. Трэба адзначыць, што гэтае выданьне рабілася больш за два гады. У зборы матэрыялаў прымалі ўдзел самыя розныя людзі. Нажаль, жыцьцё падкідвала багатыя магчымасьці для ўзнікненьня і папаўненьня кнігі. У першы раз яна была падрыхтавана для выпуска ўжо на пачатку 1997 года. Але падобна, што «імклівае» адступленьне нашымі ўладамі ад асноватворных дэмакратычных каштоўнасьцяў прымусіла працягнуць працу яшчэ больш чым на год. «Гучныя» справы амаль усіх лідэраў дэмакратычнага руху Магілёўшчыны, іх шматмільённыя штрафы, словы і рашэньні сьледчых, пракурораў, судзьдзяў, рознамасных вэртыкальных чыноўнікаў, – усе яны так ці йнакш мелі публічную адзнаку дзякуючы незалежным сродкам масавай інфармацыі. Напрыклад, "ТМ" надрукаваў значную частку матэрыялаў «Белай Кнігі». Ужо тады па рэакцыі чытачоў газэта адчула, наколькі чытачам было важна атрымаць ясную і дакладную інфармацыю. Тым ня менш, сабраныя ў адно факты з кнігі ўражваюць – у канцы 20 стагодзьдзя цяжка назіраць тое, што людзі клічуць таталітарызмам. На старонках чытач пазнаёміцца і з тымі справамі, якія не патрапілі ў поле вялікай грамадзкай цікавасьці. Тым больш значна, што і для ніх знайшлося месца на старонках кнігі. У такой вобласьці, як правы чалавека, няма дробнага.

Кніга ўмясьціла больш за 40 фактаў грубых адступленьняў ад агульнапрынятых прававых нормаў. На думку кіраўніка аддзялення і аднаго з аўтараў кнігі Валерыя Сівухі, наяўнасьць падобнага зусім нелітаратурнага твору – адно з самых яскравых сведчаньняў антыдэмакратычнай сутнасьці сёньняшняга рэжыму.

Магілёўская «Белая Кніга» – першае падобнае выданьне ў Беларусі. Наклад кнігі 299 асобнікаў. Яна будзе распаўсюджаная сярод грамадзкіх актывістаў праваабарончага руху і накіраваная ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.

**_Сымон ГЛАЗШТЭЙН_**

## Лепшая культура ў дыктатарскіх краінах?

Віцэ-прэм'ер ураду, сумнавядомы Уладзімер Замяталін, падзякаваў старшыні аблвыканкаму Аляксандру Кулічкову за выдатную арганізацыю дзён югаслаўскай культуры на Магілёўшчыне.

На жаль, толькі зь Югаславіі мы і атрымліваем рознага кшталту культурныя падарункі. Улічваючы асаблівасьці нашай зьнешняй палітыкі, нас у хуткім часе, відавочна, парадуюць днямі культуры Кубы, Паўночнай Карэі, Ірака й Лівіі – лепшых сябраў беларускага дыктатарскага рэжыму. Ня маючы нічога супраць музыкі й іншых відаў мастацтва, хацелася б бачыць у нас музыкаў і актораў, якім не даручаецца выконваць адначасова з сымфоніямі й палітычныя задачы.

*С. Г.*

## Каб іншая ўлада, дык абараняць было б што

Аблвыканкам захацеў абараніць нашых спажыўцоў. На апошнім паседжаньні прынята рашэньне, што ў кожным райвыканкаме цяпер будзе «спэцыяльны чалавек», упаўнаважаны змагацца за нашыя спажывецкія правы.

Адно засмучае. Галоўны сёньняшні вораг беларускага спажыўца – дзяржава. Яе эканамічная палітыка пазбаўляе чалавека любых магчымасьцяў адчуваць сябе нармальным спажыўцом. І таму цалкам незразумела, як дзяржава зьбіраецца сама з сабой змагацца. Хутчэй за ўсё, як і ў іншых выпадках, мы пабачым імітацыю дзейнасьці і хлусьню.

*І. З.*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Адвакатам стала яшчэ цяжэй абараняць грамадзянаў

Ні для каго не сакрэт, што ў нашай краіне, якая паводле прызнаньня цывілізаванае сусьветнае супольнасьці не зьяўляецца дэмакратычнай, правы чалавека ёсьць гарантаванымі толькі на паперы. Слынны паўтор беларускім прэзыдэнтам трагічна вядомага выразу (аднаго са сваіх самых страшэнных у гісторыі папярэднікаў) аб тым, што «ёсьць чалавек – ёсьць праблема, няма чалавека – й праблемы няма», яскрава сьведчыць пра стаўленьне першае асобы краіны да сваіх суграмадзянаў. Але, праўду сказаць, ня можа ён абараніць кожнага асобнага чалавека, бо заняты глябальнымі клопатамі адразу пра ўсіх, пра наш з вамі дабрабыт – за што яму ўсенародная ўдзячнасьць. А абараняюць нас, пры неабходнасьці, адвакаты. Усё як ў дэмакратычных краінах. Аднак жа радавацца пакуль пачакайце. Прэзыдэнт, відаць, палічыў, што надта шмат у нашай краіне разьвялося розных праваабаронцаў, якія на самай справе (з-за нізкай кваліфікацыі, зразумела!) імі не зьяўляюцца. Ну, напрыклад узяць хоць бы тагож Гары Паганяйла. Толькі і можа, што выступаць на працэсах усялякіх там Шараметаў ці таго горш... Таму і вырашыў прэзыдэнт удасканаліць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адвакатуры». Узяў і ўнёс у закон свае папраўкі. Дэкрэт так і называецца «Аб некаторых мерах па ўдасканаленьні адвакацкае й натарыяльнае дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусі».

Адпаведна закону «адвакатура ўяўляе сабой ***незалежны*** (выдзелена намі – ТМ) прававы інстытут, закліканы паводле Канстытуцыі ажыцьцяўляць прафэсійную праваабарончую дзейнасьць». Цяпер жа ў яе, адвакатуры, зьявіўся начальнік. Вось як зараз падаецца адпаведны артыкул закону пасьля папраўак: «Міністэрства юстыцыі...

1. выдае ў адпаведнасьці з заканадаўствам нарматыўныя акты, якія рэгулююць дзейнасьць адвакатуры;

2. прыпыняе не адпаведныя заканадаўству рашэньні кіруючых органаў калегіяў адвакатаў і ўносіць у гэтыя органы прадстаўленьне аб адмене гэтых рашэньняў;

3. ажыцьцяўляе ў адпаведнасьці з заканадаўствам іншыя паўнамоцтвы, зьвязаныя з агульным і мэтадычным кіраўніцтвам адвакатурай;

4. кантралюе выкананьне заканадаўства ўсімі асобамі, якія ажыцьцяўляюць адвакацкую дзейнасьць»...

Вынікае, што адвакатура ёсьць фактычна падначаленай Міністэрству юстыцыі структурай. Яно ж, міністэрства, узгадаем, ёсьць структура выканаўчае ўлады(!) Яна, гэтая самая ўлада, зьнізу да верху падначалена прэзыдэнту. Цяпер ніхто ня будзе, ня мае права займацца «адсябяцінай»: прыватная адвакацкая дзейнасьць зьліквідаваная.

Цікава таксама, як удасканалены артыкул 11-ы закона, дзе гаворка ідзе пра Кваліфікацыйную камісію, якая выдае ліцэнзіі на права займацца адвакацкай дзейнасьцю. Па закону ў яе складзе было 11 сябраў – адвакаты з практыкай работы ня менш 10 гадоў, навукоўцы-юрысты і толькі адзін прадстаўнік Міністэрства юстыцыі. Таму яна і была Кваліфікацыйнай камісіяй а д в а к а т а ў. Палажэньне аб ёй прымалася радай Саюзу адвакатаў. Цяпер жа камісію стварае Міністэрства, адпаведна ў яе складзе зараз мусіць быць ня менш як 9 прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, адвакаты прызначаюцца з практыкай работы ад 5 гадоў. Адпаведна старшынём камісіі зьяўляецца намесьнік міністра юстыцыі. Ясна, што гэтае ведамства цяпер само распрацоўвае і зацьвярджае Палажэньне аб Кваліфікацыйнай камісіі. Зусім няцяжка зьвярнуць увагу на тое, што ўсе зьмены маюць на мэце падначаленьне адвакатуры ведамству (значыць, уладзе).

Іншыя папраўкі тычацца разьдзелу закона, дзе гаворыцца пра абмежаваньні на занятак адвакацкай дзейнасьці і аб анулявальні адвакацкіх ліцэнзіяў. Цяпер такія рашэньні, што раней былі выключнай прэрагатывай Прэзыдыюма калегіі адвакатаў, могуць прымацца Мінюстам с а м а с т о й н а. Саюз адвакатаў зараз пазбаўлены (а ў законе гэта было) права на заканадаўчую ініцыятыву.

Дарэчы, на іспытах на атрыманьне адвакацкай ліцэнзіі, сярод шматлікіх пытаньняў ёсьць і такое: колькі галінаў улады ў Беларусі. Здаецца і дзеці ведаюць: заканадаўчая, выканаўчая й судовая. Між тым зьменамі ў Канстытуцыю, якія былі зробленыя пасьля сумнавядомага рэфэрэндуму, прэзыдэнт ня толькі валодае правам заканадаўчае ініцыятывы, але і выдае дэкрэты, «якія маюць сілу законаў». Цікава, як адказваюць на гэтае пытаньне прэтэндэнты на ліцэнзію: па тэорыі або па практыцы.

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях правоў чалавека*



**P.S. Тэма правоў чалавека ня можа ня быць прыярытэтнай для дэмакратычнай газэты. Будзем удзячныя чытачам за ўдзел у гэтай рубрыцы паведамленьнямі, водгукамі, пытаньнямі.**

*На пададзеных да гэтага матэрыялу здымках адлюстравана:*

***на верхнім** – абаронцы Паўла Шарамета, адвакаты Рыгор Шарамет, Сьвятлана Лабоха, Гары Паганяйла, Міхаіл Ваўчок;*

***на ніжнім** – яготыя судзьдзі падчас агалошаньня выроку.*

## Пукашыскі патрыятызм

Мясцовыя бэпэсэмаўцы правядзяць чарговую псэўдапатрыятычную акцыю – абласны фэстываль вайскова-патрыятычнай песьні, прысьвечаны 10-годзьдзю вывада савецкага акупацыйнага кантынгэнту з Афганістана.

Замест таго, каб сапраўды асэнсаваць сутнасьць трагедыі 10-гадовай даўніны, падобныя мерапрыемствы праслаўляюць подзьвігі і мужнасьць савецкіх агрэсараў. Мы, падчас існаваньня ў агульным саюзе, прынесьлі ў чужы дом вайну. Яшчэ можна было б казаць пра абстрактныя мужнасьць, гераізм і любоў да Радзімы, каб ня ўзгадваліся мільёны забітых афганцаў, якім нашы салдаты несьлі камуністычнае шчасьце. Пра гэта на бэпэсэмаўскіх сходках і фэстах не гаворыцца. Ды й у грамадстве не ўсталявалася пакуль менавіта такое пакаяннае стаўленьне да афганскай тэмы. На жаль.

## Журналістаў не дапусьцілі ў заснавальнікі сваёй газэты

Творчыя супрацоўнікі крычаўскай газэты «Ленінскі кліч» зьвярнуліся да старшыні аблвыканкаму Кулічкова, каб іх увялі ў склад заснавальнікаў газэты.

Крыўду мясцовых журналістаў можна было б зразумець, каб газэта была незалежнай ад уладаў, самастойнай у выбары й асэнсаваньні інфармацыі. Як і ўсе іншыя дзяржаўныя выданьні, асабліва «раёнкі», крычаўская аддана абслугоўвае вэртыкаль. Дык на што ім быць у складзе заснавальнікаў? Хаця хто яе ведае, сёньняшнюю лёгіку паводзінаў многіх нашых інтэлігентаў.

## Дарагое слова

Імклівы рост коштаў – зараз гэта сумная рэальнасьць нашых дзён. У гэты раз насельніцтва «парадавалі» сувязісты.

Толькі месяц пратрымаліся тарыфы на іх паслугі, а ўжо зноў паведамлена пра істотнае падвышэньне коштаў. Да 30% узраслі кошты за перасылку карэспандэнцыі ў замежжа і да 50% – па Беларусі. Напрыклад, за ліст у Эстонію, Азэрбайджан ці Францыю прыйдзецца выкласьці ад 18 да 30 тысячаў рублёў. На 30% вырас кошт хвіліннай размовы па міжгорадзе. Званок у Маскву важыць ужо 50 тысячаў, а ў ЗША ажно 129 тысячаў рублёў. За хвіліну размовы зь сябрамі з Крычава ці Горак трэба цяпер аддаць 1.600 рублёў, а калі гэта Менск ці Гародня – 3.200. Унутрыгарадзкія размовы таксама падаражэлі да 150 рублёў за хвіліну.

*Хроніка Сымона ГЛАЗШТЭЙНА*

ПАЛІТЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ

# Хрысьціянская Дэмакратыя на Беларусі

Хрысьціянская дэмакратыя ў сучасным сэнсе зьявілася ў Эўропе напачатку XX стагодзьдзя, калі пэўныя колы каталіцкіх грамадзкіх дзеячоў і інтэлектуалаў распачалі працу над стварэньнем новага ідэйна-палітычнага руху, які б змог спалучыць хрысьціянскія каштоўнасьці й здабыткі сучаснай дэмакратыі. Першыя буйныя партыі, якія можна назваць хрысьціянска-дэмакратычнымі, зьявіліся ў Нямеччыне й Італіі. Трохі пазьней гэтай ідэяй захапілася ўся Эўропа. Ня стала выключэньнем і Беларусь.

Хрысьціянска-дэмакратычны рух сярод беларусаў узьнік у асяродзьдзі слухачоў Пецярбурскай духоўнай акадэміі, а таксама ў гуртках настаўнікаў і каталіцкіх сьвятароў у самой Беларусі. Датай арганізаванага афармленьня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі лічыцца травень 1917 года. Заснавальнікамі яе былі ксяндзы Фабіян Абрантовіч, Адам Станкевіч, Аляксандар Астрамовіч, Францішак Будзька, Вінцэнт Гадлеўскі.

Галоўнай ідэяй беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў пачатку XX ст. была ідэя вольнай незалежнай Бацькаўшчыны. Яны адразу ж падтрымалі Акт 25 сакавіка – абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Як арганізацыя дэмакратычная, БХД арыентавалася на эвалюцыйны шлях развіцьця грамадзтва й парлямэнцкія формы барацьбы, выступала супраць фашызму й бальшавізму, мела свой друкаваны орган – газэту «Крыніца» (з 1926 года – «Беларуская Крыніца»).

Пасьля Рыскай змовы БХД дзейнічала на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая адыйшла да Польшчы (сядзіба знаходзілася ў Вільні), пашырала там нацыянальную сьвядомасьць сярод беларускага насельніцтва вёсак і мястэчкаў, заклікала адстойваць права на сваю мову ў школах і рэлігійным жыцьці. У 1926 г. у Вільні БХД заклала Беларускі інстытут гаспадаркі й культуры.

Ад 1927 г. сябрамі партыі, паводле зьменаў у Статуце, маглі быць ня толькі каталікі, але й праваслаўныя. Гэта дало ёй магчымасьць стаць лідэрам сярод нашых партыяў у Заходняй Беларусі. Тагачасныя польскія ўлады турбаваліся ростам папулярнасьці БХД. Асабліва ўзмацнілі яны кантроль над партыяй пасьля таго, як у лютым 1936 г. паміж Беларускім інстытутам гаспадаркі й культуры і Таварыствам Беларускай школы было падпісанае пагадненьне ў справе змаганьня за школу на роднай мове. Тым часам у самой партыі адбыўся раскол на «дэмакратаў» і «кансэрватараў». Апошнія на чале з В.Гадлеўскім утварылі Беларускі Народны Фронт, а Беларускае Нацыянальнае Аб'яднаньне ачоліў Янка Пазьняк.

...Пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да СССР многія беларускія хрысьціянскія дэмакраты адразу былі рэпрэсаваныя (сярод іх Ян Пазьняк, Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч, Янка Шутовіч). Тыя, хто застаўся ў жывых, як маглі працягвалі працу на карысьць Бацькаўшчыны, іншыя назаўсёды выехалі за мяжу.

*Аляксандар БУРАКОЎ, старшыня гарадзкой філіі МХСС*

